Ба 59259

ПРОЛЕТАРЫ! УСІХ КРАЁЎ, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# Кожнаму комсамольцу ўручыць новы

# Комсамольскі білет

В-ва ЦК ЛКСМБ „Чырвоная Зьмена“

Б А 59259

# АБМЕН КОМСАМОЛЬСКАГА БІЛЕТА — ВАЖНЕЙШАЯ ПОЛІТЫЧНАЯ КАМПАНІЯ

Бел. аддзел 1994 г.
Бд 59259



В-ва ЦК ЛКСМБ „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“
МЕНСК 1932

А. КОСАРАУ

# Абмен комсамольскага білета—важнейшая палітычная кампанія

Сярод некаторых нашых кіруючых працаўнікоў існуе думка, што правядзеньне абмену комсамольскіх білетаў—простая і чыста тэхнічная справа. Гэтыя працаўнікі не адчуваюць ўсёй значнасьці такога мерапрыемства, недаацэньваюць ўсёй важнасьці справы. З гэтымі фактамі, якія паказваюць на лёгкасьць адносін да абмену комсамольскага білета, мы ўжо сустрэліся ў падрыхтоўчай рабоце. **Неабходна пазьбегнуць магчымых памылак пры абмене білетаў, папярэдзіць іх і, ва ўсякім выпадку, імкнуцца, каб гэтых памылак было як мага менш,—вось чаго павінен дабівацца кожны актыўны працаўнік саюзу, кожны комсамолец.**

## ДАВЕСЬЦІ ЗНАЧЭНЬНЕ АБМЕНУ БІЛЕТА ДА КОЖНАГА КОМСАМОЛЬЦА

Што значыць давесьці абмен білетаў у організацыі, якая налічвае 5 з паловай мільёнаў членаў? Гэта значыць: ідэю абмену комсамольскага білету давесьці да кожнага комсамольца, ня толькі ў яго агульна-палітычным значэньні, ня толькі паставіць гэта пытаньне перад ўсёй організацыяй «наогул», а ў расшыфраваным выглядзе давесьці да пяці з паловай мільёнаў комсамольцаў усе дэталі гэтага складанага, буйнейшага палітычнага мерапрыемства. Ясна, што тут нельга адрабіцца абменам членскага білета «наогул». Абмяняць білет кожнаму вартаму комсамольцу з ліку пяці з паловай мільённай організацыі, гэта значыць—патрэбна знайсьці ключ да кожнага паасобнага комсамольца, які знаходзіцца ў нашай організацыі. Гэта справа вельмі і вельмі

складаная. Патрэбна дабіцца, каб кожны комсамолец у надыходзячы абмене членскага білета ведаў, калі ён асабіста павінен яго абмяняць, у які дзень, у якую гадзіну і ў якім месцы. Калі гэта мерапрыемства мы не давядзем да кожнага комсамольца, дык многія з іх ня будуць ведаць, як ім абмяняць свой білет, дзе, калі, а гэта прывядзе к таму, што сотні і нават тысячы комсамольцаў не абмяняюць сваіх білетаў і могуць па гэтай прычыне выбыць з саюзу. Гэта можа адбыцца не па злому ўмыслу кагосьці, а проста з-за лёгкасьці і павярхоўнасьці, якія праяваць у гэтай справе кіраўнік, альбо актыўны працаўнік саюзу. Трэба зразумець у такім выпадку ўвесь трагізм комсамольца, калі ён хоча абмяняць білет, але ня ведае, дзе, калі і як гэта зрабіць. А такіх таварышоў, пры дрэннай організацыі справы, можа аказацца многа, і іх пасьля, каб выйсьці са становішча, будуць кваліфікаваць (акуляры ўціраюць), як «мэханічна выбыўшых», альбо, як «мёртвыя душы». А многія-ж з гэтых таварышоў, якія па гэтай прычыне выбываюць з саюзу, могуць быць комуністымі, комсамольцамі.

**Той, хто мэханічна будзе падыходзіць да абмену білетаў, той будзе рабіць злачынства перад партыяй і комсамолам.** Які-небудзь галавацяп, не дадумаўшыся устанавіць дзень, гадзіну, месца абмену білета, дрэнна організаваўшы гэту справу, можа гэтым самым вырваць з організацыі сотні людзей, асабліва ў вёсцы і ў нацорганізацыях. Устанаўляючы час і месца абмену комсамольскага білету, патрэбна ўлічваць асаблівасьці паасобных груп моладзі. У нас-жа знойдзецца нямала такіх комсамольцаў, для якіх—той альбо іншы дзень, у які намечана абменьваць білеты, ня пройдзе па цэламу раду прычын. Альбо ён працуе ў зьмене, альбо знаходзіцца ў водпуску, альбо паехаў да родных з гораду ў вёску, а можа быць і хворы ў даны момант. У шматмільённым комсамоле такіх выпадкаў, вядома, знойдзецца вельмі многа. Усё гэта патрэбна ўлічыць, да мас патрэбна падыходзіць не наогул, а ведаць, дзе паасобны комсамолец знаходзіцца ў даны момант і калі яму лепш за ўсё і выгадней ўсяго абмяняць комсамольскі білет, якія тэрміны яму для гэтага ўстанавіць.

Мы яшчэ раз падкрэсьліваем, што давесьці абмен білетаў да кожнага комсамольца не наогул, а сказаць кожнаму комсамольцу, каб ён абмяняў білет у такі-то дзень, у такую-то гадзіну, у такім-то месцы і сказаць гэта пяці з паловаю мільёнам членаў,

кожнаму паасобна—справа вельмі складаная і патрабуе аграмаднай увагі, напружанасьці. **Абмен білета—экзамен саюзнаму кіраўніцтву.**

## ПАДПАРАДКАВАЦЬ АБМЕН БІЛЕТА ПАВЫШЭНЬНЮ КЛЯСАВАЙ БАЯЗДОЛЬНАСЬЦІ НАШЫХ РАДОЎ, ПАСІЛЕНЬНЮ БАРАЦЬБЫ ЗА ГЕНЭРАЛЬНУЮ ЛІНІЮ ПАРТЫІ

Падкрэсьліваем: кожны актыўны работнік саюзу павінен зразумець, што абмен комсамольскага білета **не тэхнічнае мерапрыемства, а перш за ўсё мерапрыемства вялізарнейшай палітычнай важнасьці.** Пытаньне тэхнікі абмену білета хоць і важнае, але яно носіць другарадны дадатковы характар. Цэнтральны зьмест мерапрыемстваў па абмену білета ў тым, што яны павінны яшчэ больш палітычна нам умацаваць організацыю. Гэта мерапрыемства трэба выкарыстаць для максымальнага згуртаваньня радоў нашага саюзу вакол конкрэтнага правядзеньня лініі партыі ў данай обласьці, раёне, цэху, групе, агрэгаце, на заводзе цалкам, ў колгасе і г. д.

**Трэба выкарыстаць абмен комсамольскага білета так, каб яшчэ больш павысіць палітычную актыўнасьць кожнага комсамольца ў соцбудаўніцтве. Выкананьне прамфінпляну па ўсіх колькасных і якасных паказчыках, зьніжэньне сабекошту, форсаваньне вывучэньня тэхнікі, падняцьце ўдарніцтва на вышэйшую ступень, заводскае і цэхавае плянаваньне, організацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасу плюс да ўсяго гэтага аўладаньне рэволюцыйнай тэорыяй—вось што ад нас патрабуецца.**

Трэба яшчэ шырэй і глыбей разгарнуць масавую палітычную работу. І калі нам гэтую справу удасца організаваць, дык мы ўпэўнены, што пасьля абмену комсамольскага білета наш саюз узьнімецца на больш высокую ступень. Мы кожнага члена УсеЛКСМ з пяці з паловай мільёнаў нашай організацыі яшчэ больш актывізуем. А вы ведаеце, што значыць пры дыктатуры пролетарыяту прывесьці ў рух масы, тым больш масы моладзі, адданыя партыі. Узьнімецца такая хваля творчасьці і актыўнасьці, аб якой мы проста ня думаем.

Організавана і прадумана праводзячы абмен білетаў 5 з паловай мільёнам комсамольцаў, павышаючы на гэтым яшчэ больш грамадзка-палітычную актыўнасьць саюзу, мы знойдзем лепшыя шляхі конкрэтнага выражэньня гэтай актыўнасьці на паасобных

вучастках соцыялістычнага будаўніцтва. У выніку гэтага у нас павысіцца сьпеласьць актыву і лепш разгорнецца работа комсамолу па ўсіх лініях: па гаспадарчай, савецкай, вытворчай і г. д. Мы павінны кожнаму комсамольцу даць яшчэ большую зарадку на далейшую работу.

Увесь саюз ў цэлым, яго паасобныя зьвеньні, паасобныя комсамольцы павінны дабіцца большага разуменьня лініі нашай партыі, разуменьня таго, як гэта лінія ў асобных, канкрэтных умовах павінна праводзіцца. **Трэба ня толькі разумець лінію партыі, а ўмець яе практычна ажыцьцяўляць,** выходзячы з асабліваасьцяй краю, вобласьці, раёну, колгасу, заводу. Нам патрэбна дабіцца, каб кожны комсамолец ў час абмену членскага білета ўзброіў сябе ведамі, як у яго конкрэтных ўмовах агульная лінія партыі павінна знаходзіць сваё конкрэтнае выражэньне. **Падняць клясавую баяздольнасьць саюзу, павысіць ідэйна-політычны ўзровень саюзу на большую вышыню—вось політычны бок абмену комсамольскага білета.**

Абмен членскага білета асабліва вялікую ролю павінен адыграць у барацьбе з недысцыплінаванасьцю ў саюзе. Гэта кампанія павінна ўзьняць дысцыпліну кожнага комсамольца, узброіць яго чуткасьцю бальшавіцкай адказнасьці.

Кожны комсамолец павінен падпарадкаваць свае асабовыя інтарэсы і па жаданьні інтарэсам організацыі. У гэтай сувязі належыць спыніцца на пытаньні **аб сяброўскіх узносах.** Пытаньне аб сяброўскіх узносах і запазычанасьці на сяброўскіх узносах зьяўляецца ня толькі пытаньнем чыста грашовага парадку, але, галоўным чынам, гэта **пытаньне політычнае.** Факт уплаты сяброўскага ўзносу павінен павышаць у комсамольца чуласьць прыналежнасьці да організацыі. Клопаты аб своячасовай уплаце сяброўскага ўзносу патрабуюць павышэньня дысцыпліны, а такога разуменьня ў нас на мясцох і асабліва ў ячэйках не хапае. Як правіла, выдзяляюць зборшчыка сяброўскіх узносаў, не растлумачваюць яму політычнай існасьці збору сяброўскіх узносаў, а кажуць: абыйдзі, зьбяры. Але, зразумейце, ня можам мы па-бальшавіцку выхоўваць організацыю, калі члены організацыі ня будуць адчуваць значэньня і неабходнасьці своячасовай і абавязковай уплаты сяброўскага ўзносу. Своячасовая ўплата сяброўскага ўзносу зьяўляецца пярвейшым абавязкам кожнага комсамольца, зьяўляецца элемэнтарнаю адзнакай прыналежнасьці яго да комсамолу. Той, хто ня плаціць сяброўскіх узно-

саў, не ўмацоўвае сваю організацыю, той ня варт быць у радох УсеЛКСМ.

З гэтага пункту погляду падыйдзем да запазычанасьці па сяброўскіх узносах. Тых, хто павінен аплаціць узносы, у нас многа, і яны розныя. Адны не плацілі ўзносы тры месяцы, другія—6 месяцаў, трэція—8. І ім цяжка будзе зразу знайсьці такую суму, каб пагасіць запазычанасьць. Значыць, як-бы вывад такі: з павінных плаціць пагашэньня запазычанасьці не патрабаваць, альбо патрабаваць толькі ў пэўных процантах. Такі вывад будзе няправільным.

**Уся запазычанасьць без выключэньня павінна быць пагашана комсамольцам, ня можам мы стымуляваць недысцыплінаванасьць, расхлябанасьць і няўвагу да сваёй організацыі фактам скашчваньня запазычанасьці.** Хочаш быць ў комсамоле—пагашай сваю запазычанасьць па сяброўскіх узносах. Але патрэбна ўдакладніць пастаноўку гэтага пытаньня. Пагашэньне запазычанасьці патрэбна праводзіць рознымі шляхамі. Як прынцып, запазычанасьць павінны пагасіць у час правядзеньня абмену комсамольскага білета. У вінаватых сяброўскія ўзносы мы павінны высьветліць, даведацца, чаму яны сяброўскія ўзносы не плацілі столькі часу, публічна іх пастыдзіць, браць з паасобных з іх абавязацельствы, што яны сваю запазычанасьць па сяброўскіх ўзносах пагасяць да такога-то тэрміну і г. д. Пры гэтым яму патрэбна растлумачыць, што справа тут ня толькі ў грошах, а што няўплата сяброўскага ўзносу размагнічвае яго і штурхае на шлях парушэньня саюзнай дысцыпліны. Але пры ўсім гэтым мы павінны падкрэсьліць, што паасобныя злосныя элементы, якія ўхіляюцца сьвядома ад ўплаты сяброўскага ўзносу, павінны быць з комсамолу выключаны: такім білеты не абменьваць.

## АБМЕН БІЛЕТА—НЯ ЧЫСТКА ОРГАНІЗАЦЫІ, АЛЕ І НЯ ПРОСТАЕ ТЭХНІЧНАЕ МЕРАПРЫЕМСТВА

Што ўяўляе сабою кампанія абмену комсамольскага білета? **Абмен комсамольскага білета—гэта ня чыстка радоў саюзу, і ня простае тэхнічнае мерапрыемства.** Ніхто нікому не даваў права абмен комсамольскага білета ператвараць ў чыстку організацыі. Але-ж такія настроі ў паасобных мясцох маюць месца. Мы павінны на ўвесь саюз гулкагоЛасна сказаць: **абмен комсамольскага**

**білета—гэта ня чыстка організацыі, і той, хто спрабуе ператтварыць гэтае мерапрыемства ў чыстку, робіць грубейшую памылку, скажае дырэктывы партыі і саюзу.** Мы чыстку не праводзім, мы праводзім абмен комсамольскага білета. Але і той, хто думае, што абмен комсамольскага білета ёсьць простае тэхнічнае мерапрыемства, і ў выніку гэтага падыходзіць да правядзеньня гэтага абмену формальна, «наогул», той таксама робіць грубейшую памылку. Абмен комсамольскага білета мы павінны выкарыстаць для ўзмацненьня клясавай баяздольнасьці комсамолу, а гэта азначае, што паасобныя комсамольцы, калі яны не зьяўляюцца сапраўднымі комсамольцамі, могуць быць выключаны з комсамолу ў час правядзеньня абмену комсамольскага членскага білета. У момант правядзеньня абмену комсамольскага білета патрэбна будзе выключаць з радоў саюзу тых, хто да саюзу прымазаўся і зьяўляецца яўна чужым.

## УРУЧАЦЬ НОВЫ БІЛЕТ НА АДЧЫНЕНЫХ СХОДАХ

Самы факт выдачы новага білета павінен спадарожвацца організацыяй найбольшага выхаваўчага ўзьдзейнічаньня на кожнага комсамольца. Уручаць членскія білеты павінны самыя аўторытэтныя комсамольцы. Патрэбна дабіцца, каб уручэньне новага білета праводзілася публічна, у прысутнасьці беспартыйнай моладзі, дарослых рабочых, у прысутнасьці колгасьнікаў, ва ўрачыстай абстаноўцы. Уручаючы паасобнаму комсамольцу білет, трэба патрабаваць ад яго адпаведных абавязацельстваў. Скажам, калі ён недысцыплінаваны, патрабаваць ад яго абавязацельства ў тым, каб ён выправіўся. Патрэбна таксама даць права комсамольцам у момант правядзеньня абмену членскага комсамольскага білета рабіць крытычныя заўвагі па адрасу паасобных комсамольцаў.

Напрыклад, каб комсамолец такі-то, прысутны пры абмене комсамольскага білета, меў права сказаць, што ён ня супраць таго, каб такому-то комсамольцу далі членскі комсамольскі білет, але ён ведае за ім такія-то праступкі, ставіць іх на абгаварэньне і няхай атрымліваючы білет сам пакажа свае адносіны да сваіх праступкаў. Альбо другі комсамолец можа сказаць аб тым, што такому-то комсамольцу нельга выдаваць білет, бо ён яго ня варты, прымазаўся да комсамолу, і яго трэба з організацыі выключыць.

Патрэбна ўсіх комсамольцаў прыцягнуць да абмену членскага комсамольскага білета. Няхай кожны комсамолец асуджае сваe ўчынкі і ўчынкі другіх комсамольцаў. З ўсяго паданага відаць, што мы праводзім ня чыстку радоў саюзу і што ў той-жа час гэта не тэхнічнае мерапрыемства. Організуючы такім чынам справу, мы тым самым узьнімем політычнае значэньне нашага білета. **Але-ж ня кожны мае права насіць комсамольскі білет. Мы-ж ня кожнага прымаем у комсамол, і ня кожны варты быць у нашых радох. Мы даём членскі комсамольскі білет тым, хто яго заслугоўвае.** Значыць, комсамольскі білет ёсьць пасьведчаньне аб прыналежнасьці да ганаровай, аўторытэтнай політычнай організацыі і накладае на члена гэтай організацыі адпаведныя абавязкі.

## ПАТРЭБЕН ЧУТКІ ПАДЫХОД ДА КОЖНАГА КОМСАМОЛЬЦА.

**У момант правядзеньня абмену комсамольскага білета неабходны самы ўважлівы, чуткі падыход не наогул да паасобных груп комсамольцаў, а да кожнага комсамольца паасобку.** Ня ўсе комсамольцы зьяўляюцца аднолькава вопытнымі ў такой меры, як наш актыў. Ёсьць у нас нізавое зьвяно, якое ня зразу разумее сутнасьць пытаньня, можа памыляцца, і вось у гэтых умовах магчымы такія факты, калі пераростку ня будуць мяняць білета, будуць выкарыстоўваць кампанію па абмену членскага білета для таго, каб пазбавіцца ад пераросткаў. Патрэбна забараніць гэта рабіць. Той, хто так будзе чыніць у адносіне пераросткаў, зробіць політычную памылку, і за гэту справу такога кіраўніка павінна судзіць наша комсамольская грамадзкасьць. Ёсьць небясьпека, што людзі будуць імкнуцца пазбавіцца ад так званых «мёртвых душ». Бывае, калі комсамолец лічыцца «мёртвай душой» з-за казённых да яго адносін, а на самой справе ён можа быць і зьяўляецца актыўным працаўніком, але часта бывае перагружан і ў моц гэтага рэдка пападаецца на вочы сэкратару ячэйкі, і той лічыць яго «мёртвай душой».

Патрэбна не даваць комсамольскага білета тым, **якія толькі лічацца ў організацыі,** але на самай справе ня існуюць. **Але існуючым людзям, якія знаходзяцца ў комсамоле і варты атрымаць новы білет, кіраўніцтва павінна забясьпечыць выдачу новага комсамольскага білета. Падыход да людзей павінен быць чуткім, уважлівым.** Тут могуць быць і асабовыя рахункі, пры като-

рых будуць выключаць вартых людзей, выключаць ні за што. Гэта патрэбна загадзя папярэдзіць. У выніку нячуткага і няўважлівага падыходу мы можам часам спаткацца з такімі фактамі, калі чалавек будзе ўбіты ня толькі політычна, але і моральна. Гэта патрэбна папярэдзіць. Патрэбна выключыць бяздушны падыход, а роўна-ж і не дапускаць выключэньня з саюзу па такой мотывіроўцы, што **«ён не актыўны».** Гэта патрэбна рэзка асудзіць і забараніць.

Патрэбна разгарнуць пропагандысцкую работу навокал абмену білетаў. У самыя бліжэйшыя дні ў Маскве, Ленінградзе, абласных і краёвых цэнтрах патрэбна сабраць актыў па гэтаму пытаньню, усіх комсамольскіх працаўнікоў, кожнага сэкратара райкому і ячэйкі праінструктаваць. Аб гэтым павінен загаварыць наш друк, і «Комсамольская праўда» ў першую чаргу.

Патрэбна зьмяшчаць разнастайныя артыкулы, зьвязаныя з абменам комсамольскага членскага білета, праз друк інформаваць комсамольскі актыў аб тым, як будзе праходзіць абмен, растлумачыць—ці можна ў час абмену выключаць з комсамолу, ці можна выносіць комсамольцам спагнаньні, ці можна падаваць скаргі на таго, альбо іншага комсамольца. Пытаньне абмену білетаў патрэбна спэцыяльна прысьвяціць некалькі саюзных дзён. **Кожны павінен ведаць, што ён павінен рабіць па абмену білетаў.**

У сувязі са складанасьцю гэтага мерапрыемства, мы падыходзім да яго вельмі асьцярожна. Будзе ўстаноўлен такі парадак: з 5 лютага абмен білетаў пачнецца ў Маскоўскай, Ленінградзкай абласьцёх і ў ЦЧО. Робім мы гэта па зусім зразумелых меркаваньнях, каб не памыліцца, накапіць вопыт. Добра прашчупаўшы на працягу студзеня гэту работу, з 15 сакавіка прыступім к абмену зразу па ўсім саюзе.

**Бюро ЦК пастанавіла закончыць абмен білетаў да 5 чэрвеня 1932 г.** Неабходна будзе ўвязаць гэту работу з вясеньнімі палявымі работамі. Патрэбна памятаць, што абмен комсамольскага білета—гэта не самамэта, а політычнае мерапрыемства. **Біцца за програму севу—значыць біцца за комсамольскі білет.**

Патрэбна будзе ўстанавіць чарговасьць: па якой групе раёнаў правесьці абмен білетаў у першую чаргу, па якой групе—у другую чаргу і г. д. Ячэйка-ж устанаўляе таксама парадак у сябе, які цэх ідзе ў першую чаргу. Усё патрэбна разьлічыць, абдумаць, правесьці організавана.

Ва ўсіх абласных камітэтах, крайкомах і ЦК нацрэспублік складаюцца тройкі, альбо пяцёркі, якія шгодзенна кіруюць правядзеньнем абмену членскага білета і ў дэкаду раз адчытваюцца ў бюро абкому, крайкому і ЦК нацрэспублік. Вось які строга цэнтралізаваны парадак патрэбна ўстанавіць. Склад гэтых троек будзе зацьвярджаць ЦК.

Ужо маюцца факты недаацэнкі гэтага мерапрыемства. Калі мы прапанавалі прадставіць весткі аб складзе троек, нам паведамілі: першы член тройкі—нам. заг. такога-то аддзелу, другі—нам. заг. другога аддзелу, старшыня—заг. оргаддзелу. Ня выйдзе гэта.

Першы сакратар камітэту арганізацыі—вось хто павінен быць старшынёю тройкі, альбо пяцёркі. Потым патрэбна забясьпечыць якасны склад гэтых троек, альбо пяцёрак, каб яны заняліся сваёй задачай не фармальна, а па сутнасьці. Патрэбна прыцягнуць да гэтай справы парторганізацыі. Павінен сказаць: без дапамогі партыі нам з гэтай справай ня справіцца. Дзеля гэтага зараз-жа патрэбна паставіць гэта пытаньне перад парт'ячэйкамі. Чоткая асьвядомленасьць, цьвёрды кантроль, справаздачнасьць, сыстэма ўпаўнаважаных ва ўсіх зьвеньнях, пачынаючы з ЦК—вось што патрабуецца.

І апошняе: патрэбна ўмацаваць тэхнічны апарат. У нас недаацэньваюць гэтай справы. Тэхнічны апарат—гэта вялізарнай важнасьці пытаньне у справе абмену членскага білета. Зараз патрэбна асабліва ўмацаваць інформацыйна-статыстычны апарат сваімі сіламі, яму аднаму ня справіцца. І ў канцы канцоў, раз назаўсёды патрэбна пакончыць з расхлябанасьцю, якая наглядаецца ў нашым тэхнічным апараце, ня гнібіць яго, а дапамагчы яму і ўмацаваць яго.

## ПАСТАНОВА ЦК УсеЛКСМ

1. Абмен комсамольскіх білетаў і кандыдацкіх картак УсеЛКСМ пачаць з 5 лютага 1932 году па маскоўскай, ленінградзкай і цэнтральна-чорназёмнай абласных організацыях УсеЛКСМ. Да 5 сакавіка закончыць абмен білетаў па гэтых організацыях.

2. З 15 сакавіка 1932 году прыступіць да абмену членскіх білетаў і кандыдацкіх картак УсеЛКСМ па ўсіх астатніх організацыях комсамолу, скончыўшы канчатковы абмен членскага білета УсеЛКСМ па ўсім Саюзе к 5 чэрвеня 1932 году.

3. Даручыць маскоўскаму, ленінградзкаму абкомам УсеЛКСМ і абкому УсеЛКСМ ЦЧО сабраць шырокія агульна-гарадзкія сходы комсамольскага актыву з пастаноўкай пытаньня аб абмене членскага комсамольскага білета.

4. Даручыць усім крайкомам, абкомам, ЦК нацрэспублік і ўсім райкомам комсамолу абгаварыць ва ўсіх ячэйках і організацыях комсамолу пытаньне аб абмене членскага білета, праінструктаваўшы ўвесь актыў комсамолу і ўсіх комсамольцаў аб парадку правядзеньня абмену білета.

5. Прапанаваць абласным, краёвым і рэспубліканскім організацыям УсеЛКСМ устанавіць ўнутры організацыі чарговасьць абмену членскіх білетаў па раёнах, а ў раёнах—чарговасьць абмену членскіх білетаў па паасобных групах ячэек УсеЛКСМ, выходзячы з тэрмінаў абмену, устаноўленых даным рашэньнем ЦК УсеЛКСМ.

6. Камандыраваць у кожную абласную, краёвую і рэспубліканскую організацыю УсеЛКСМ па аднаму адказнаму ўпаўнаважанаму ЦК УсеЛКСМ для дапамогі ў правядзеньні абмену членскіх білетаў.

Прапанаваць абкомам, крайкомам і ЦК КСМ нацрэспублік у сваю чаргу камандыраваць у раённыя організацыі УсеЛКСМ

спэцыяльных ўпаўнаважаных у дапамогу організацыям па правядзеньню абмену білетаў.

7. Усё опэрацыйнае кіраўніцтва організацыяй і правядзеньнем абмену членскіх білетаў ускласьці на спэцыяльныя тройкі—пяцёркі, якія ствараюцца пры абкомах, крайкомах, ЦК КСМ нацрэспублік, гарадзкіх і сельскіх райкомах і ячэйках УсеЛКСМ.

У склад троек—пяцёрак, як правіла, павінен увайсьці прадстаўнік парторганізацыі: у абласную — прадстаўнік абкому і абл. КК УсеКП(б), у раённую—прадстаўнік райкому і РКК УсеКП(б) і ў ячэйкавую—прадстаўнік парт'ячэйкі.

Кожная тройка—пяцёрка абавязана раз ў дэкаду інформаваць аб ходзе абмену членскіх білетаў: ячэйкавая—бюро ячэйкі КСМ; раённая—бюро РК КСМ, абласная—бюро абкому КСМ.

8. Устанавіць, як правіла, што склад троек—пяцёрак абкомаў, крайкомаў і ЦК КСМ нацрэспублік зацьвярджае ЦК УсеЛКСМ, склад троек—пяцёрак райкомаў зацьвярджае абком, крайком і ЦК КСМ нацрэспублік, склад троек ячэек зацьвярджае райком УсеЛКСМ.

9. Цэнтральную камісію пры ЦК па абмену комсамольскіх білетаў зацьвердзіць у складзе тт. Салтанава—старшыня, Лук'янава, Герцовіч, Балашова,, Громава, Цванкіна і прадстаўніка оргінстра ЦК УсеКП(б), даручыўшы камісіі:

а) сыстэматычнае кіраўніцтва ўсёй работай, зьвязанай з правядзеньнем абмену членскіх білетаў;

б) к 25 студзеня 1932 году прадставіць на зацьверджаньне сэкратарыяту ЦК склад троек—пяцёрак і іх старшынь па ўсіх абласных, краёвых і рэспубліканскіх камітэтах УсеЛКСМ:

в) устанавіць парадак і тэрміны канчатковага падвядзеньня вынікаў абмену членскіх білетаў па кожнай абласной, краёвай і рэспубліканскай організацыі.

10. Зацьвердзіць упаўнаважанымі ЦК УсеЛКСМ па абмену членскіх білетаў па Маскоўскай абласьці—т. Лук'янава, па Ленінградзкай абласьці—т. Гусева, па ЦЧО—т. Татарнікава.

Зацьвердзіць наступны склад троек па організацыі першай чаргі:

1) Масква: тт. Лук'янаў—старшыня, Івушкін, Герасімаў, Бравін і Волкаў.

2) Ленінград: тт. Гусеў—старшыня, Март'янаў, Шпільлер, дапоўніўшы склад тройкі прадстаўнікамі ленінградзкага абкому УсеКП(б) і кантрольнай камісіі УсеКП(б).

3) ЦЧО: тт. Рудых—старшыня, Ягораў і Пятухоў.

11. Устанавіць наступны парадак спагнаньня платы за комсамольскія членскія білеты пры абмене:

а) з рабочых, служачых, саматужнікаў, начальніцкага складу РСЧА і слухачоў вышэйшых школ, маючых заробак да 60 руб., браць 25 кап., ад 60 да 110 руб.—50 кап., ад 111 да 175 руб.—75 кап. і ад 176 руб. і вышэй—1 руб.;

б) з вучня ФЗВ—25 кап.;

в) з сялян—25 кап.;

г) з вучняў ніжэйшай школы—10 кап.

Заўвага: 1. З вучняў вышэйшай школы, ня маючых стыпэндыі і самастойнага заработку, за членскія білеты браць 25 кап.

2. Выхаванцаў дзіцячых дамоў і асоб, няздольных да фізычнае працы (пэнсыянэраў), ад уплаты за членскія білеты аслабаніць.

3. Чырвонаармейцаў ад уплаты за членскія білеты аслабаніць.

12. Усе сумы, атрыманыя за членскія білеты нац. ЦК, краёвымі і абласнымі організацыямі, пераводзіць у адзіны партбюджэт ЦК УсеКП(б) тым-жа парадкам, як і сяброўскія ўзносы.

Разьлік за членскія білеты, выданыя нац. ЦК, краёвым і абласным камітэтам, праводзіць наступным чынам:

а) ЦК УсеЛКСМ штомесячна прадстаўляе ў фінчастку ЦК УсеКП(б) весткі аб колькасьці высланых білетаў організацыям, на падставе якіх вылічваецца сума з належачых да пераводу організацыям крэдытаў з разьліку, зацьверджанага ЦК КСМ.

б) На час праверкі адзін раз у месяц і на астатні час два разы ў год (на 1 ліпеня і на 1 студзеня) нац. ЦК, крайкомы і абкомы прадстаўляюць у ЦК УсеЛКСМ зводку на выданыя білеты з указаньнем атрыманых за іх сум, на падставе якой робіцца поўны разьлік, з залічэньнем розьніцы збору супроць орыентовачнай сумы ў той ці іншы бок.

в) Організацыі, якія не атрымліваюць датацыі з адзінага партбюджэту, таксама прадстаўляюць адзначаныя зводкі і кошт членскіх білетаў, па орыентовачнай ацэнцы ўключаюцца ў

агульны рахунак па партбюджэту з чарговым залічэньнем розьніц супроць фактычна сабраных. Сабраныя сродкі павінны пераводзіцца ў ЦК УсеКП(б) разам са сродкамі, якія належаць па рахунку партбюджэту.

13. Сумесны ліст ЦК з ПУР аб абмене комсамольскага білета у ваенных часьцях зацьвердзіць.

14. Лічыць неабходным пры абмене білета поўнае пагашэньне кожным комсамольцам сваёй запазычанасьці па сяброўскіх узносах.

## УСІМ ОРГАНІЗАЦЫЯМ УсеЛКСМ

ЦК УсеЛКСМ з 5 лютага па 5 чэрвеня 1932 году праводзіць абмен старых і выдачу новых членскіх комсамольскіх білетаў.

Гэта мерапрыемства вялізарнай палітычнай важнасьці. Абмен комсамольскага білета павінен садзейнічаць яшчэ большай мобілізацыі членаў УсеЛКСМ на правядзеньне генэральнай лініі партыі, на далейшае павышэньне клясавай баяздольнасьці радоў УсеЛКСМ, на ўзмацненьне барацьбы з рознымі опортуністычнымі ўхіламі.

Абмен комсамольскіх білетаў павінен яшчэ больш палітычна актывізаваць усе комсамольскія організацыі і ўсіх комсамольцаў у дапамогу партыі на выкананьне конкрэтных задач гаспадарчага будаўніцтва, контрольных лічбаў 1932 году. Неабходна яшчэ больш прыкаваць увагу комсамольцаў да выкананьня промфінпляну, да яшчэ большага ўцягненьня членаў УсеЛКСМ у соцыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва, у работу плянава-опэрацыйных груп, на вывучэньне тэхнікі, барацьбу з прагуламі, з бракам, за палепшаньне якасьці продукцыі.

Комсамольскія організацыі вёскі правядзеньне абмену білета павінны увязаць з павышэньнем свайго ўдзелу ў організацыйна-гаспадарчым умацаваньні колгасаў, з выкананьнем абавязацельстваў колгасамі, саўгасамі і аднаасобнікамі перад пролетарскай дзяржавай і з далейшым узмацненьнем барацьбы з кулацтвам і яго агентурай.

ЦК УсеЛКСМ прапануе ўсім комсамольскім організацыям выкарыстаць абмен членскага білета для павышэньня марксыцка-ленінскага выхаваньня комсамольцаў. **Не павінна быць ніводнага комсамольца гораду і вёскі, які-б ня вывучыў марксыцка-ленінскую рэволюцыйную тэорыю.** Не павінна быць ніводнага комсамольца, які-б ня прымаў актыўнага ўдзелу ў штодзеннай рабоце комсамолу.

Абмен комсамольскага білета патрэбна злучаць з узмацненьнем барацьбы з элемэнтамі недысцыплінаванасьці, у прыватнасьці зьвярнуць асаблівую ўвагу на збор сяброўскіх узносаў. Патрэбна абвясьціць бязьлітасную барацьбу неплацельшчыкам сяброўскіх узносаў. Сваячасовая ўплата сяброўскага ўзносу зьяўляецца пярвейшым абавязкам кожнага комсамольца і зьяўляецца элемэнтарнай адзнакай прыналежнасьці да комсамолу. Той, хто ня плоціць сяброўскіх узносаў, хто не ўмацоўвае сваю організацыю, той ня варты быць у радох УсеЛКСМ. Неабходна дабіцца ўплаты запазычанасьці па сяброўскіх узносах кожным комсамольцам.

**ЦК УсеЛКСМ папярэджвае ўсе організацыі ад спроб ператварэньня абмену білетаў у чыстку організацыі.**

**Абмен комсамольскага білета—гэта ня чыстка радоў саюзу і ня простае тэхнічнае мерапрыемства.** Неабходны ўважлівы, чулы падыход да кожнага комсамольца ў паасобку, трэба дабіцца, каб ніводзін комсамолец ня быў выключан з саюзу без дастатковых на тое падстаў (пад відам «ненаведваньня сходаў», «недастатковай актыўнасьці», «пераросткаў» і г. д.). Разам з гэтым неабходна адсякаць ад організацыі асоб чужых, прымазаўшыхся да УсеЛКСМ.

**Кожны комсамолец павінен сваячасова абмяняць свой членскі білет.**

Палітычная важнасьць і значэньне абмену, складанасьць яго правядзеньня ва ўмовах 5-мільённага саюзу патрабуюць ад кожнай групы, зьвяна, ячэйкі, камітэту ўважлівай і сур'ёзнай падрыхтоўкі да абмену.

Ячэйка павінна правесьці наступнае:

1. Кожная ячэйка вылучае тройку, якая зацьвярджаецца райкомам. Бюро ячэйкі зьбірае адчынены сход усіх комсамольцаў, на якім тройка па абмену дакладвае аб значэньні абмену і тэхніцы яго правядзеньня.

2. Бюро ячэйкі сумесна з тройкамі загадзя складае сьпіс усіх комсамольцаў, якія ўваходзяць у ячэйку, зачытвае гэты сьпіс на сходзе ячэйкі, дзе кожны прысутны можа заявіць адвод таму альбо іншаму комсамольцу, і адбываецца абгаварэньне магчымасьці застаўленьня ў комсамоле таго таварыша, якому заяўлен адвод.

Увага. У сьпіс комсамольцаў для праходжаньня абмену білета ўключаюцца таксама і комсамольцы, якія знаходзяцца на часовым вучоце.

3. Па ўказаньню раённай тройкі ячэйкавая тройка ўстанаўлівае дакладны тэрмін праходжаньня абмену для кожнай групы, зьвяна, выходзячы з умоў прадпрыемства, і паведамляе аб гэтым на сходзе ячэйкі. Акрамя таго, аб гэтых тэрмінах павінен быць паведамлены кожны комсамолец праз аб'явы, плякаты і пэрсанальны абход групоргамі і членамі бюро ячэйкі.

4. К моманту правядзеньня абмену білета ячэйка павінна прывесьці ў поўны парадак свае справы аб прыёме і выключэньні членаў організацыі, дабіўшыся таго, каб ніводзін член ячэйкі не знаходзіўся ў нявысьветленым становішчы.

5. Уручэньне новых білетаў адбываецца **на адчыненых комсамольскіх сходах цэхавых і зьменных ячэек** з шырокім прыцягненьнем беспартыйнай моладзі.

Неабходна організаваць уручэньне білетаў так, каб комсамолец, які атрымлівае новы білет, браў на сябе новыя абавязацельствы па сваёй вытворчай і грамадзкай рабоце і вучобе. Дзеля гэтага рэкомэндуецца прыцягнуць да ўручэньня білетаў старых кадравых рабочых—членаў партыі, якія, уручаючы білет комсамольцу, ставілі-б перад ім рад патрабаваньняў.

Увага: Комсамольцы, якія ня могуць па ўмовах прадпрыемства атрымаць білет на сходзе ячэйкі (знаходзяцца у камандыроўцы, працуе, хворы) атрымліваюць яго на працягу 10 дзён у бюро ячэйкі, а пасьля гэтага тэрміну—у райкоме КСМ.

Комсамолец, атрымлімваючы білет, расьпісваецца ў спэцыяльнай раздатачнай ведамасьці і плоціць за білет устаноўлены інструкцыяй ЦК збор.

6. Аб тых комсамольцах, па якіх у процэсе абмену ўзьнікаюць сумненьні ў правільнасьці вестак, запісаных у асабовай картцы і старым членскім білеце (комсамольскі стаж, соцыяльнае паходжаньне і г. д.), тройка і бюро ячэйкі павінны паведаміць у конфліктную камісію, якая абавязана не пазьней як на працягу 5 дзён разгледзіць кожную справу.

7. Усе матар'ялы і інструкцыі па абмену білета павінны быць прапрацаваны на сходах ячэек, на нарадах усіх групоргаў, на бюро ўсіх зьвеньнявых, агрэгатных, зьменных, цэхавых ячэек, на бюро камітэтаў і ячэек, аж да абласткомаў і крайкомаў, з тым, каб кожны комсамолец і тым больш актыўны працаўнік саюзу ведаў ня толькі задачы, але і ўсю тэхніку правядзеньня абмену білета.

**ЦК УсеЛКСМ**

Б 59259



# ПАСТАНОВА

## ЦК УсеЛКСМ па дакладу абкому ЦЧО, Раненбурскага, Аненскага і Сасноўскага Райкому УсеЛКСМ

1. Кампанія па абмену і выдачы комсамольскіх білетаў у ЦЧО выклікала новы рост грамадзка-палітычнай актыўнасьці мас комсамольцаў. Там, дзе камітэты і ячэйкі правільна арганізавалі правядзеньне кампаніі, у наяўнасьці палепшаньне работы ячэек УсеЛКСМ, што знайшло свой выраз у росьце ўдарніцтва, соцспаборніцтва, у барацьбе за выкананьне прамфінпляну, у мобілізацыі комсамольцаў вакол задач падрыхтоўкі да сяўбы, у павышэньні ахопу палітычнай і ваеннай вучобай і асабліва ва ўзмацненьні комсамольскай дысцыпліны.

2. Разам з гэтым ЦК адзначае як **карэнны недахоп няўменьне кіраўніцтва раду організацый падпарадкаваць абмен білетаў выкананьню гаспадарча-палітычных задач,** конкрэтнаму ажыцьцяўленьню гэтых задач у раёне, колгасе, на вытворчасьці; слабое выкарыстаньне абмену білетаў для мобілізацыі кожнага комсамольца на конкрэтнае выкананьне ім гаспадарча-палітычных задач і асабліва ў правядзеньні падрыхтоўкі да вясеньняй сяўбы. У сілу гэтага, абавязацельствы з боку комсамольцаў, якія атрымліваюць білеты, у значнай меры носяць агульны, неконкрэтны характар. Усё гэта сьведчыць аб спробах **ператварыць кампанію ў простае тэхнічнае мерапрыемства.**

Побач з гэтым, з боку **абкому ЦЧО дапушчана буйная палітычная памылка,** якая выразілася ў прыняцьці рашэньня на сьнежаньскім пленуме абкому (адмененага пасьля ўказаньня ЦК УсеЛКСМ) **аб складаньні на кожнага комсамольца характарыстыкі** і іх абгаварэньні, **што па сутнасьці орыентавала організацыю на ператварэньне абмену білета ў чыстку організацыі.** Складаньне характарыстык і абгаварэньне іх у радзе організа-

цый адцягнула, асабліва ў падрыхтоўчай рабоце, увагу членаў УсеЛКСМ ад мобілізацыі на вырашэньне гаспадарча-палітычных задач і прывяло да пэрсональнага абгаварэньня кожнага комсамольца, ператварэньня сходаў у політэкзамены, нячулых і няўважлівых адносін да паасобных комсамольцаў і да няправільнага выключэньня з УсеЛКСМ.

3. Абком несваячасова паслаў упаўнаважаных у організацыі першай чаргі, не ўдзяліў належнай увагі якаснаму падбору ўпаўнаважаных, асабліва ўпаўнаважаных райкомаў, недастаткова опэрацыйна кіраваў кампаніяй (няведаньне ходу выдачы білетаў, паступленьня сяброўскіх узносаў і г. д.). Нездавальняюча працуюць райтройкі: паасобныя працаўнікі РК і троек ня ведаюць інструкцый ЦК.

У радзе месц (Барысаглебск, Падгорная і інш.) дапушчаны скажэньні інструкцыі ЦК: абгаварэньне сьпісаў і выдача білетаў на адным сходзе, запаўненьне білетаў, асабовых і вучотных картак да абгаварэньня сьпісаў, білеты падпісваліся да іх запаўненьня, неахайнае запаўненьне білетаў (запаўненьне білетаў алоўкам, папраўкі ў білетах, перапісваньне аднаго і таго-ж білета з аднаго прозьвішча на другое і г. д.).

4. Газэта «Молодой Куммунар» ня выканала сваёй ролі як організатара і памоцніка ў правядзеньні кампаніі, праявіла недаацэнку правядзеньня абмену білетаў на вёсцы, зусім недастаткова змагалася за мобілізацыю комсамольцаў на ажыцьцяўленьне гаспадарча-палітычных задач і не мобілізавала організацыю на барацьбу са скажэньнямі.

5. ЦК УсеЛКСМ абавязвае абком ЦЧО безадкладна зьнішчыць і не дапускаць у далейшым адзначаных недахопаў і скажэньняў і зьвяртае ўвагу ўсіх організацый УсеЛКСМ на недапушчэньне падобнага роду зьявішчаў у падрыхтоўцы і правядзеньні абмену білетаў.

ЦК прапануе абкому УсеЛКСМ і ўсёй організацыі ЦЧО:

1) Галоўнейшай задачай паставіць павышэньне актыўнасьці мас комсамольцаў на аснове ўцягненьня кожнага комсамольца асабліва ў работу па падрыхтоўцы і правядзеньні сяўбы, па організацыйна-гаспадарчаму ўмацаваньню колгасаў, мобілізуючы ўвагу організацыі на стварэньне насенных фондаў, рамонт сельскагаспадарчага інвэнтара, падрыхтоўку цягавай сілы і правядзеньне агро-культурных мерапрыемстваў, накіраваных на павышэньне ўраджайнасьці,

2) Організаваць масавую **праверку і сыстэматычны кантроль** за выкананьнем абавязацельстваў, узятых комсамольцамі ў часе абмену білетаў, разгарнуўшы **спаборніцтва** паміж комсамольцамі за іх выкананьне.

Абавязаць раённыя організацыі і ячэйкі дабіцца ўстанаўленьня конкрэтнага кіраўніцтва і сыстэматычнага кантролю за дзейнасьцю кожнага комсамольца, асабліва комсамольцаў, якія працуюць брыгадзірамі, рахункаводамі, конюхамі і г. д. у колгасах.

3) Абавязаць абком ЦЧО выканаць рашэньне ЦК аб перападрыхтоўцы і падрыхтоўцы сэктароў колгасных ячэек, лічачы гэта аднэй з важнейшых задач узмацненьня комсамольскіх організацый у вёсцы.

4) ЦК лічыць **абсолютна ненормальным наяўнасьць вялікага адсеву** ў складзе раду раённых організацый КСМ і прапануе абкому **неадкладна праверыць прычыны адсеву і выправіць допушчаныя памылкі,** якія прывялі да значнага проценту адсеву.

Камітэты і ячэйкі УсеЛКСМ абавязаны забясьпечыць абмен білета кожным комсамольцам, змагаючыся супроць мэханічнага падыходу да выключэньня, з нячулымі і няўважлівымі адносінамі да комсамольцаў, выключаючы з саюзу клясава-варожыя, прымазаўшыяся элемэнты.

Камітэты і ячэйкі абавязаны весьці рашучую барацьбу з тымі, хто замест прыняцьця мер да выяўленьня, дзе знаходзіцца комсамолец, які павінен атрымаць білет, мэханічна выкрэсьліваюць са сьпісаў пад відам «нязьняцьця з вучоту, выбыўшых у другія організацыі».

Прапанаваць упаўнаважанаму ЦК УсеЛКСМ тав. **Архіпаву** праверыць, чаму ў **Расашанскім, Панінскім і Варанцоўскім** раёнах вялікі процант адсеву.

5) Абавязаць абком прыцягнуць **да саюзнай адказнасьці** тых упаўнаважаных абкому, якія не забясьпечылі правільнага правядзеньня дырэктыў ЦК аб абмене комсамольскага білету і рашучай барацьбы як з ператварэньнем кампаніі ў чыстку організацыі, так і зьвядзеньнем абмену білетаў да простага тэхнічнага мерапрыемства.

6) Абавязаць абком безадкладна прыняць меры да палепшаньня пастаноўкі марксыцка-ленінскага выхаваньня, асабліва сярод навічкоў, устанавіць сыстэматычны кантроль за дзейнасьцю організацыі ў гэтай галіне.

7. Прапанаваць абкому УсеЛКСМ ЦЧО узмацніць працаўнікамі апарат рэдакцыі «М. К», замяніўшы рэдактара газэты і ўзмацніўшы штодзеннае кіраўніцтва газэтай.

**ЦК УсеЛКСМ**

---

## ЗЬНЯТЫ З РАБОТЫ СЭКРАТАР БЕЖАЦКАГА РАЙКОМУ УсеЛКСМ

### Пастанова МК УсеЛКСМ

Сэкратарыят МК УсеЛКСМ, улічваючы нездавальняючае кіраўніцтва абменам комсамольскага білета з боку Бежацкага райкому, які ня здолеў забясьпечыць належнае разгортваньне кампаніі, як буйнейшага палітычнага мерапрыемства (задача абмену не даведзена да ячэек, ня зьбіраўся пленум РК і нарада сэкратароў ячэек, абмен ня злучаецца з важнейшымі гаспадарчымі задачамі і падрыхтоўкай да вясеньняй сяўбы), пастанаўляе:

1) аслабаніць т. Арыстархава ад абавязкаў сэкратара Бежацкага РК УсеЛКСМ;

2) даручыць Оргінстру МК УсеЛКСМ у аднадзенны тэрмін прадставіць на зацьверджаньне сэкратарыяту МК прапановы аб кіраўніцтве Бежацкай організацыі УсеЛКСМ;

3) данае рашэньне апублікаваць у «Комсомольской Правде».

**Сэкратар МК УсеЛКСМ Лук'янаў**

„Комсомольская Правда" 1-III—32 г.

# ПАСТАНОВА

## КАМІСІІ ПА АБМЕНУ БІЛЕТАЎ ПРЫ ЦК ЛКСМБ

Устанавіць наступную чарговасьць раёнаў па абмену білетаў:

**З 15 па 30 сакавіка.**

Віцебск
Полацк
Койданава
Заслаўль
Старобін
Чырвоная Слабада
Асьвея
Вушачы
Дрысса
Вузда
Лагойск
Плешчаніцы
Тураў
Жыткавічы
Копыль
Лельчыцы
Мозыр
Рассоны
Асіпавічы
Слуцк
Лепель
Петрыкаў.

**З 25 сакавіка па 10 красавіка**

Бешанковічы
Гарадок
Лёзна
Сенно
Чашнікі
Бялынічы
Дуброўна
Сіроціна
Талочына
Шклоў
Горкі
Крупкі
Мсьціслаўль
Сураж
Чаўсы
Будакашалёў
Быхаў
Ветка
Клічаў
Карма
Клімавічы
Краснапольле
Крычаў
Прапойск
Пухавічы
Рагачоў
Старыя Дарогі
Смалявічы
Уваравічы
Цэрахаўка
Чачэрск
Чэрыкаў
Чэрвень
Бярэзіно.

**З 10 па 25 красавіка**

Менск
Гомель
Ворша
Магілеў
Бабруйск
Барысаў
Рэчыца
Жлобін
Брагін
Глуск
Ельск
Камарын
Любань
Лоеў
Нароўля
Парычы
Хойнікі.

*Камісія ЦК ЛКСМБ.*

